# Весткі Адраджэньня

БЮЛЕТЭНЬ КАНФЭДЭРАЦЫІ БЕЛАРУСКІХ СУПОЛАК №2





## БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА (КАРОТКІ АГЛЯД) 1985~1989

Беларуская літаратура /далей БЛ/ — гэта адбітае ў роднай мове жыцьцё нашае нацыі: яе мінуўшчына, сучаснасьць і будучыня, нутро і атачэньне, моц і слабасьць, памяць і вера. Гэта за соткі гадоў створаны беларускім геніям духоўны скарб і запавет нашчадкам. Гэта ў сярэднявеччы і сёньня адна з найбольш разьвітых і чытальных літаратур культурнай Эўропы. Гэта дзесяткі сусьветна вядомых і тысячы самых розных, больш ці менш адораных аўтараў. Гэта дзесяткі тысяч раманаў, драмаў, аповесьцяў, апавяданьняў, вершаў, абразкоў...

БЛ паўстала з вусных народных твораў — песень, казак, паданьняў — і ўжо ніколі не парывала сваю сувязь з фальклёрам. То ў лепшыя часы ўздымалася яна да алімпійскіх вышыняў, зьдзіўляючы сьвет геніям сваіх творцаў. То часамі, калі ў краі панаваў чужынец і акупанты забаранялі самую беларускую мову, яна зноў рабілася фальклёрам — словам ананімных аўтараў, якое падхопліваў народ.

БЛ паўстала разам з гісторыяй нацыі, вучылася ў гісторыі і пісала гісторыю, то апярэджвала, то даганяла свой час.

У X ст., калі на Беларусь прыйшло хрысьціянства, калі на нашых дарогах зьявіліся цэлыя вазы рэлігійных кніг, наша літаратура стала пісьмовай. У манастырах Турава, Полацка, Наваградка, Смаленска першыя беларускія чарняцы-мніхі акуратна перапісвалі старабаўгарскія тэксты Біблії, казаньняў, апокрыфаў...

Пры перапісцы ў мёртвыя і чужыя паводле мовы тэксты траплялі "памылкі" — жывыя беларускія словы. З гэтых "памылак" і складалася паступова нацыянальная пісьмовасьць. Паўставалі арыгінальныя, уласнабеларускія творы: жыцьцёпісы Барыса і Глеба, Кандрата пакутніка, Тэклі першапакутніцы. У трох беларускіх княствах зьявіліся і сталі вядомымі беларускія пісьменьнікі: Кірыла Тураўскі — аўтар шматлікіх словаў, прыпавесьцяў — малітваў — сапраўдных узораў эўрапейскае прамоўніцкай мовы сярэднявечча; Эўфрасіня Полацкая — заўзятая кніжніца, славутая клопатамі пра адукацыю; Аўрамі Смаленскі; Клімент Смаляціч...

Заўважым, што з-за неадшліфаванасьці тагачаснае беларускае мовы многія чужыя дасьледчыкі схільны блытаць старабеларускую літаратурную спадчыну са старамаскоўскай, ра-пяцца на талент смаленскіх аўтараў і нават на Кірылу Тураўскага. А традыцыя тагога кваленьня пачалася пасьля далучэньня Беларусі да Расеі ў XVIII ст. Тады Усход імкнуўся ў імперскім запале давесьці Захаду, самім беларусам і ўсяму сьвету спрадвечную прыналежнасьць Беларусі да Расеі, агульнасьць паходжаньня, лёсу, культуры, нават мовы і г.д.* Менавіта тады і была прыдумана "гісторыя" пра Кіеўскую Русь — адзіны і непадзельны дзяржаўны арганізм старажытнасьці, матку трох народаў: беларускага, расейскага і ўкраінскага. Народы абвяшчаліся роднымі братамі, а ўвесь іх палітычны і культурны набытак — набыткам Кіеўскай Русі, а значыць, аўтаматычна, — набыткам Расейскай імперыі, пазьней — проста Расеі, расейскага народу.

Між тым, як сьведчаць старажытныя кронікі, беларускія плямёны /крывічы, дрыгавічы, радзімічы/ былі на той час аб'яднаныя ў тры самастойныя беларускія княствы: Полацкае, Турава-Пінскае і Смаленскае. У княствах былі

---

*Сёньня ўжо даведзена, што ў аснове беларускага і расейскага этнасаў /народаў, нацыяў/ — розныя славянскія плямёны, якія да таго ж "сядзяць" на розных этнічных субстрактах: беларусы — на балцкім, а расейцы — на угра-фінскім і цюркскім.

/працяг на ст.2/

сваё дынастычныя адміністрацыі, сваё дзяржаўныя арганізмы, яны нічым не саступалі Кіеву і ніколі не ядналіся зь ім у адно палітычнае цэлае. Аб'яднаньне нашых княстваў пачалося ў XIII ст. з утварэньнем Вялікага Княства Літоўскага,* якое праіснавала да XVIII ст., амаль 500 гадоў... Беларуская мова ў Вялікім Княстве Літоўскам была дзяржаўная.

Таксама ў XII ст. распачалося беларускае летапісаньне.

Так, сёньня мы можам даведацца пра нашых даўнейшых продкаў і нашу старую Бацькаўшчыну з тагачасных "Аповесьці мінулых часоў" і Галіцка-Валынскага летапісу. Але дзе тыя хронікі полацкія, тураўскія ды смаленскія, пра якія дакладна вядома, што яны былі. Нават цытаты з іх дайшлі да нашага часу. А самі арыгіналы... адны кажуць, што згарэлі ў часе вайны, другія — што скрадзеныя, трэйція — што ляжаць дзе-небудзь на гарышчы закінутага хутара...

Беларускія летапісы дайшлі да нас у сьпісах XV і пазьнейшых стагодзьдзяў. Самы поўны зь іх — Хроніка Быхаўца, дзе пачынаючы ад нараджэньня Хрыста апавядаецца пра Беларусь, пра яе сяброў і ворагаў, яе гарады і замкі, вялікіх і малых князёў, — пра ўсё адметнае, што адбывалася на нашай зямлі.

У XII-XIII ст. паўстала і чыста практычная БЛ /граматы, лісты, умовы, прывілеі.../— папярэдніца сёньняшняга справаводства, якая аж да XVIII ст. /600 гадоў/ пісалася па-беларуску.** Сярод дакументаў-помнікаў — "Угодчая грамата Полацка зь немцамі 1200 г.","Умова Полацка з Рыгай 1210г.", "Угодчая Ґрамата крывічоў зь немцамі 1214г." і інш.

"Смаленская ўмова зь немцамі 1229 г." — гэта ўзор тагачаснага беларускага пісьменства, зь якога ўжо цалкам зьніклі мёртвыя баўгарскія /царкоўнаславянскія/ словы. Гэта двухбаковае гандлёва-палітычнае пагадненьне, у якім абумоўлены пошліны, падарункі, мейсцы гандлю і праезду... Напрыклад, за забойства свабоднага чалавека назначалася плата ў 10 грыўняў срэбрам, за халопа — 1 гр., за вока, нагу, руку і г.д. — 5 гр., за зубы — 3 гр., за ўдар па вуху — 3/4 гр., за зьнявагу жанчыны муж атрымліваў 10 гр., і г.д. Як бачым, практычная БЛ адлюстроўвала пачаткі беларускага права.

Самы поўны збор беларускіх дзяржаўных дакументаў за 1386-1794 гады ўтрымліваюць 566 тамоў Метрыкі ВКЛ. Пераважна на іх грунце паўстаў адзін зь першых і перадавых у Эўропе, і першы ў славянаў сістэматызаваны кодэкс законаў па ўсіх галінах сярэднявечнага права — Статут ВКЛ, інакш — канстытуцыя.

У XIV ст. палітычным і культурным цэнтрам Беларусі робіцца Вільня. У гэты час зьявілася падарожная літаратура беларускіх вандроўнікаў /"Хаджэньне Ігната Смалянiна","Хаджэньне Варсанафія" і інш./, пісаліся пахвалы вялікаму князю Вітаўту, гэтману Кастусю Астроскаму і іншым мудрым і мужным дзяржаўным дзеячам. Далей разьвівалася прамоўніцкая літаратура /мітрапаліты Цыпрыян і Рыгор Цамблак/, рабіліся пераклады іншамоўных твораў /"Аповесць пра трох каралёў", "Александрыя", "Аповесць пра Трою" і інш./

Наступная эпоха — Адраджэньне — пазначана на Беларусі далейшай дэмакратызацыяй грамадзкага жыцьця, рэфармацкім рухам, школамі і друкарнямі, імёнамі вялікага першадрукара і літаратара Францішка Скарыны і ягоных выдатных сучасьнікаў Сымона Буднага, Васіля Цяпінскага, Філона Кміты Чарнабыльскага, Міколы Гусоўскага, Лаўрэна Зізанія... Шмат рабілі дзеля разьвіцьця культуры беларускія дзяржаўныя дзеячы Мікалай Чорны Радзівіл і канцлер ВКЛ Леў Сапега, які, дарэчы, быў рэдактарам Статута ВКЛ.

У XVI-XVII ст. паўстала беларуская палемічная літаратура, дзе ў вострай і гарачай спрэчцы скрыжаваліся пёры прыхільнікаў розных рэлігійных плыняў: вуніятаў Язахвата Кунцэвіча і Іпація Пацея, праваслаўных Апанаса Філіповіча і Лявона Карповіча, каталіка Пятра Скаргі, а таксама Мялеція Сматрыцкага і інш. Бадай, найбольшых сымпатыяў у гэтым шматгалосым хоры заслугоўвае берасьцеец Казімер Лышчынскі, аўтар "Трактату пра неіснаваньне Бога". За гэты твор інквізітары адсеклі Лышчынскаму рукі, ногі, галаву, пасьля спалілі яго на пляцы ў Варшаве і попел разьвеялі па ветры. Зрэшты, гэта ўжо з пазьнейшых

/працяг на ст.3/

---

* Да XIX ст. Літвой называліся беларускія землі паміж Навагрудкам і Менскам. Насельнікі гэтых земляў называліся літвінамі. Сёньняшнія Літва і літоўцы называліся тады Жмудзьдзю і жмудзінамі, або жмудзякамі.

Вялікае княства Літоўскае — ВКЛ — беларуска-літоўская дзяржава, якая існавала на фэдэратыўных пачатках зь вялікай перавагай беларускага элемента над літоўскім. У лепшыя сваё часы займала тэрыторыю ад Балтыйскага да Чорнага мора.

** Апошнія 200 г. яна вядзецца ў нас, як вядома, па-расейску.

часоў, з часоў контррэфармацыі.

Выдатныя творы беларускае публіцыстыкі ХУІІ ст. — "Прамова Мялешкі" і "Ліст да Абуховіча".

Але ўсялякі росквіт з часам зьмяняецца ўпадкам, і чым шпарчэйшае разьвіцьцё, тым больш актыўнай варта чакаць дэградацыі. Такім чынам, спрэчкі бліскучых беларускіх палемістаў паступова пераходзілі ў сваркі. Чарвяк разладу ўсё глыбей уядаўся ў цела магутнай некалі эўрапейскай дзяржавы. Абаронцы каталіцызму ўжо абвяшчалі сябе палякамі і карысталіся польскай мовай, праваслаўныя выцягвалі з труны спарахнелую і забытую чужую царкоўнаславянскую тарабаршчыну. Першыя крычалі пра патрэбу яднаньня з Польшчай, другія — з Масковіяй. І кожкі іхнія глушылі разважлівы голас розуму: трэба быць сабою, захаваць сваю духоўную, эканамічную і палітычную моц, і тады ня трэба будзе шукаць сабе абаронцаў-апекуноў.

Але мы ўсё спрачаліся, а з нас ужо цягнула сокі Польшча, набіраліся моцы дзяржавы-суседзі, расьлі сьціжмы чужацкіх войскаў на нашых межах. Мы спрачаліся, а недзе тым часам ужо дзялілі нашыя землі, наш народ.

Да канца ХУШ ст. Беларусь у тры прыёмы была далучана да Расеі. Краіна і мова страцілі свае дзяржаўныя пазыцыі, а БЛ на доўгі час з друкарняў, школ і ўнівэрсітэцкіх аўдыторыяў вярнулася ў свой першасны стан — у фальклёр, толькі зрэдку ўсплываючы інтэрмедыямі К.Марашэўскага, М.Цяцерскага і іншых.

З гэтага часу беларускія пісьменьнікі вымушаны пісаць на іншых, народных але і не забароненых мовах. Гэтак пераважна па-польску пісалі свае творы Адам Міцкевіч, Уладзіслаў Сыракомля, Ян Баршчэўскі і дзесяткі-дзесяткі іншых беларусаў. Але і ў гэтых крытычных умовах літаратура на забароненай роднай мове жыла: у таленавітых ананімных гутарках і паэмах "Энеіда навыварат", і "Тарас на Парнасе", у адзіным вядомым сёньня вершы П.Багрыма - першага беларускага паэта — выхадца з сялян — "Зайграй, зайграй, хлопча малы", у вершах Ф.Савіча, Я.Чачота, І.Легатовіча, паэмах А.Рыпінскага "Нячысьцік" і "Мачаха" Адэлі з Устроні, у асобных вершах У.Сыракомлі, В.Каратынскага, у творах А.Плуга, А.Вярыгі-Дарэўскага і шмат іншых.

З сярэдзіны ХІХ ст. прыступіў да працы адзін з буйнейшых беларускіх паэтаў і драматургаў, аўтар лібрэта першай беларускай опэры Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, творы якога /"Сялянка", "Гапон", "Пінская шляхта" і інш./ сталі грунтоўным апірышчам для гатовай ужо адрадзіцца і загучаць на ўсю моц новай беларускай літаратуры.

Вялікае Паўстаньне 1863 г. дала нашай літаратуры імёны публіцыста і паэта Кастуся Каліноўскага, паэта Фэлікса Ражанскага, мноства ананімных антыўрадавых твораў-гутарак. Пасьля паўстанцкіх паходаў узяўся за пяро пачынальнік новай БЛ Францішак Багушэвіч. У сваіх вершах і прадмовах ён наўпрост паставіў пытаньне пра лёс беларускага народа, яго нацыянальную і сацыяльную незалежнасьць ад каланіяльных дзяржаў, пра самабытнасьць і нацыянальную годнасьць беларуса. Некалькі вершаў Багушэвіча з палітычных меркаваньняў знаходзяцца пад цэнзурнай забаронаю да сёньня /"Немец", "Падарожныя жыды" і інш./.

Поруч з Багушэвічам распрацоўвалі расчышчы для будучых паэтычных плыняў пісьменьнікі-дэмакраты Янка Лучына, Адам Гурыновіч, Альгерд Абуховіч-Бандынэлі, Фэлікс Топчэўскі...

Пачатак нашага стагодзьдзя ў БЛ называюць Нашаніўскай парой, ад назвы легальнае газэты "Наша Ніва", вакол якой групавалася ўся тагачасная літаратура /1906-1915 г./. У [illegible] не папавала чарнасоценная рэакцыя расейскіх шавіністаў, якія патрабавалі зноў забараніць дазволенае ў 1904г. беларускае слова, абяскаліць беларусаў і ўвесь сьвет! Страшным бічом для нашае маладое інтэлігэнцыі сталі сухоты, раньнія сьмерці.

Але гэта быў і самы плённы, самы зорны час беларускага прыгожага пісьменства. Паўставалі беларускія арганізацыі, друк, школы... Максім Багдановіч у сваіх творах далучаўся да здабыткаў эўрапейскае і сусьветнае паэтычнае клясыкі. Цётка /Алёіза Пашкевіч/ пісала палымяныя вершы-заклікі да абуджанага народу. Квітнелі таленты і майстэрства Каруся Каганца, Алеся Гаруна, Якуба Коласа, Цішкі Гартнага і дзесяткаў-дзесяткаў іншых пісьменьнікаў. Узоры нацыянальнае прозы паказвалі аўтар першага беларускага рамана /"Золата"/ Ядвігін Ш. і Максім Гарэцкі. Друкавалася публіцыстыка і літаратурная крытыка Сяргея Палуяна, Антона Луцкевіча, Вацлава Ластоўскага.

А над усім гэтым лунаў геній духоўнага лідэра нацыі Янкі Купалы. Пра Купалу напісана вельмі шмат і нам застаецца заўважыць у гэтае працы тое, пра што ня пішуць, альбо пішуць неахвотна. Дагэтуль не перавыдаецца шмат вершаў і публіцыстычных выступленьняў паэта. Абсалютная большасьць гэтых наўмысна забытых твораў адносіцца да 1916-1920 гадоў, калі паэт

/працяг на ст.4/

найболыш востра выказваўся за незалежнасьць Беларусі ад Масквы і ад Варшавы.

Перад 1920 годам Беларусь зьведала нямецкую і польскую акупацыі, некалькі спробаў стварыць незалежную дзяржаўнасьць /БНР/, разгул бандытызму, а ўрэшце была падзелена на дзьве часткі: Усходнюю, савецкую і Заходнюю, ускраіну буржуазнай Польшчы. Зразумела, што такі падзел, нібы парэз на жывым целе,што крывавіў амаль 20 гадоў, адмоўна адбіўся на здароўі нацыі. Палітычны "экспэрымент" разьяднаў народ, прывёў да самых трагічных вынікаў ва ўсіх сфэрах, у т.л. і ў літаратуры.

У заходняй Беларусі за гэты час найболыш вызначыліся тонкія лірычныя паэты Уладзімір Жылка і Натальля Арсеньнева /асаблівыя здабыткі ў форме, у гармоніі верша/, паэт і эстэтык Ігнат Канчэўскі /І.Абдзіраловіч/, паэты нашаніўскага складу Гальяш Леўчык, Леапольд Родзевіч, філасофскі лірык Казімер Сваяк,пладавіты і здольны драматург Францішак Аляхновіч, а таксама паэт, арыентаваны на здабыткі эўрапейскае паэзіі Максім Танк і іншыя.

Некаторыя заходнебеларускія пісьменьнікі і тыя, хто выехаў з Беларусі ў часе фашыстоўскае акупацыі, склалі падмурак сучаснае беларускае эміграцкае літаратуры /Н.Арсеньнева, Ю.Віцьбіч, Р.Крушына, М.Сяднёў,А.Салавей, У.Глыбінны, К.Акула, А.Клішэвіч, Ант. Адамовіч і інш./.

Ва Усходняй Беларусі актыўная беларусізацыя да 1927 году стымулявала бурлівае літаратурнае жыцьцё. Паўстала мноства новых пісьменьнікаў, новых для нас плыняў: мадэрновая паэзія і сац.-рэалістычная, якая непасрэдна зьвярталася да сацыялістычнага будаўніцтва, далей распрацоўвалася магутная рэалістычная плынь.

У 1929-1933 гадох гэткая актывізацыя зьмянілася ня менш актыўным рэгрэсам. Гінулі ад неразумных дырэктыў і ў міжусобных сварках літаратурныя аб'яднаньні Маладняк, БелАПП,Узвышша, Пробліск, Полымя, БЛМК, дзесяткі дзеячоў культуры былі растраляныя, сотні вывезеныя ў Сібір. Сярод апошніх найболыш значныя М.Гарэцкі, Язэп Дыла, Ц.Гартны, Уладзіслаў Галубок, Міхась Зарэцкі, Адам Бабарэка,Уладзімір Дубоўка, Язэп Пушча, Уладзімір Хадыка, Міхайла Грамыка, Міхась Чарот, В. і А.Шашалевічы і шмат іншых. У 1939 годзе да іх былі дададзены заходнебеларускія літаратары, між іншых,А.Луцкевіч і Аляксандар Уласаў, якія былі фактычнымі інспіратарамі Нашаніўскага яшчэ перыяду і ўсёй новай беларускай літаратуры.

БЛ да 1956г., калі афіцыйна быў разьвенчаны Сталін і выкрыты ягоны культ, амаль спрэс бесканфліктная і ўжо сёньня цікавая хіба толькі для дасьледчыкаў. Вайна і цяжкое пасьляваеннае жыцьцё падаваліся ў хлусьлівым ружовым сьвятле. Істотная дэталь: апроч скуртачанае мовы ды тэматычнае прывязкі ў гэтай беларускай літаратуры нічога беларускага не было.

З таго часу да сёньня гісторыя БЛ стракаціць сотнямі новых імёнаў. Большасьць з іх, каму сучасьнікі прарочылі арэолы клясыкаў, — забыліся, многія паступова забываюцца пад ачышчальным напорам нашае памяці.

Актуальнай застаецца творчасьць адной са старэйшых беларускіх пісьменьніц Ларысы Геніюш, якая да нашых дзён разьвівала нашаніўскую паэзію-традыцыю. Яе прынцып і няўменьне хлусіць прымушалі выдаўцоў абіраць да друку толькі крыху з таго, што пісала паэтка.Астатняе разыходзілася ў рукапісах.

На вышыні і творы Уладзім ра Караткевіча.Ён нібы эстафэту пераняў у Купалы сьветач духоўнага лідэра нацыі.

Сусьветную папулярнасьць мае Васіль Быкаў — некалі біты і выгнаны з партыі, а сёньня прызнаны змагар за праўду ў літаратуры, які сапраўды праз церні ішоў да зорак,які паведаміў сьвету шмат невядомага пра мінулую вайну і калектывізацыю.

У падмурак нашага прыгожага пісьменства за пасьляваенныя гады леглі раманы Кузьмы Чорнага і Івана Мележа, творы Янкі Брыля і Яна Скрыгана, вершы і паэмы А.Куляшова, А.Пысіна, М.Танка, Р.Барадуліна. Лідар беларускае авангардысцкае паэзіі — Алесь Разанаў. Вартыя ўвагі творы празаікаў В.Адамчыка, В.Казько, М.Стральцова, літаратуразнаўцаў С.Александровіча, Ул.Калесьніка, А.Мальдзіса, Ул.Конана, Г.Кахановскага, Г.Кісялёва, Р.Семашкевіча, М. Мушынскага, А.Сідарэвіча...

Прабіваючыся праз багну эпігоніі і графаманства, праз афіцыйную і аўтацэнзуру, у спрэчках з метадалягічнымі дырэктывамі і догмамі найболыш сумленныя і адораныя беларускія літаратары ідуць кожны сваёй дарогай, пашыраючы межы і здабыткі нашае нацыянальнае літаратуры.

# ШТО ЧЫТАЦЬ?

1. Уладзімір Караткевіч. Зямля пад белымі крыламі. Мн. 1977г. або — Збор твораў, т.8

Для тых, хто толькі ачынаецца, чытае гэта эсэ, як зрэшты і усё астатнія творы Караткевіча, — найпершыя і найлепшыя уводзіны у беларушчыну, у нашую літаратуру.

З твораў, якія не увайшлі у 8-томнік, назавем дзённікі /Полымя, № 1-3, 1989/.

* * *

2. Ігнат Абдзіраловіч. Адвечным шляхам. Вільня, 1921 або — зборнік "Вобраз-90", Мн. 1990

Кніга мае падназву "Дасьледзіны беларускага сьветагляду" і дае уяўленьне пра адметнасьць беларускае душы, пра духоўныя пошукі нашае нацыі, пра нашае нацыянальнае "я". Аўтар /сапр. прозьвішча — Канчэўскі/ — паэт, філёзаф, эстэтык, кааператар — цікавы яшчэ тым, што у 1920 годзе заснаваў у Вільні першую беларускую сэкцыю ёгі.

Пра яго, а таксама пра Уладзіміра Жылку, Казімера Сваяка і іншых заходнебеларускіх літаратараў міжваеннае пары гл. кнігі Уладзіміра Калесьніка "Зорны сьпеў" /Мн. 1975/ і "Ветразі Адысея" /Мн. 1977/.

Апошнім часам Калесьнік сьледам за Абдзіраловічам працягнуў пошукі беларускага "я" у сваёй кнізе "Тварэньне легенды" /Мн. 1987/.

3. Максім Гарэцкі. Гісторыя беларускае літаратуры. Мн. 1926 або — М.Гарэцкі. Выбранае. Мн. 1990.

Найболыш удалы да нашага часу аналіз усёй бел. літаратуры. Таксама Гарэцкаму належыць "Хрэстаматыя бел. літ-ры XI ст. — 1905г." /Вільня, 1922/. Варта зазірнуць і у кнігу "М.Гарэцкі. Успаміны, артыкулы, дакументы" /Мн.1984/

Гарэцкі — мусіць, самы неартадаксальны бел. пісьменьнік. За выключэньнем рамана "Віленскія камунары", ягоная проза зусім пазбаўленая ідэалягічных кайданаў. Знаёмства з бел. прозай трэба пачынаць менавіта з Гарэцкага — зьвяршыні. Гл. Збор твораў у 4-х т. /Мн.1984-86/ і аповесьць "Дзьве душы" /Вільня, 1919/, якое у 4-томніку няма з цэнзурных меркаваньняў.

4. Вацлаў Ластоўскі. Гісторыя беларускае /крыўскае/ кнігі. Коўна. 1926.

Надзвычай багатае зьвесткамі і ілюстрацыямі выданьне, якое дагэтуль ня мае роўных. Адначасова — гэта гісторыя Беларусі, нашай старажытнай культуры, літаратуры, кнігі...

Ластоўскі — яшчэ і арыгінальны празаік, якога яшчэ М.Багдановіч ставіў у прыклад астатнім бел. празаікам. Не перавыдаецца. Пра яго гл. "Нёман", № 9 за 1988 г.

5. Антон Луцкевіч. Літаратурна-сацыяльныя нарысы. /Вільня, 1918/, Адбітае жыцьцё /Вільня, 1929/, Янка Купала, як прарок адраджэньня. /Вільня, 1932/ і шмат іншых.

Сотні працаў пачынальніка беларускага літ-знаўства, інспіратара Нашаніўскае пары і новай бел. літ-ры сёньня не перавыдаюцца.

* * *

6. Сучасную літаратуру пра літаратуру узначальвае Энцыклапедыя л-ры і мастацтва Беларусі у 5-ці тамах.

7. Гісторыя бел. літаратуры. Старажытны перыяд. Мн.1985.

А вось тое, што пра старажытны перыяд варта мець і чытаць: энцыклапедыю "Ф.Скарына" /Мн.1988/; "Слова пра паход Ігара" /Мн.1987/; пра беларускія летапісы — кнігі М.Улашчыка; Мікола Гусоўскі. Песня пра зубра /Мн.1981/ ; Статут Вялікага Княства Літоўскага.

8. Адам Мальдзіс. На скрыжаваньні славянскіх традыцый. Мн.1980.

Доўгі час лічылася, што у канцы XVII-XVIII ст. бел. літ-ра зьнікла. Пасьля бліскучага росквіту старога пісьменства — перад імклівым адраджэньнем XIX ст — нібы на цэлыя паўтара стагодзьдзя утварылася пустка... Мальдзіс давёў, што гэта ня так. Літаратура жыла, не замірала ні на год. Толькі шляхі яе рабіліся зьвілістыя, нават таемныя. Таму зьвесткі і творы, якія Мальдзіс сабраў з дзесяткаў бібліятэкаў, архіваў ды музэяў, вельмі уражваюць сваёй колькасьцю і зьместам.

З іншых кніг аўтара трэба прачытаць: "Таямніцы старажытных сховішчаў" /Мн. 1974/ і "Беларусь у люстэрку мэмуарнае літаратуры XVII ст." /Мн.1982/, — тут найболыш і найжывей паказана, як жылі колішнія беларусы, што рабілі, што думалі і г.д.

Найцікавей пісаў Мальдзіс і пра бел. літ-ру наступнага перыяду — у кн. "Падарожжа у XIX ст." /Мн.1969/. Болыш акадэмічна, з мэтай ахапіць усё вядомае пра гэты перыяд з храналагічным выкладам, распаведзена у двухтомніку:

9. Алег Лойка. Гісторыя бел. літаратуры. Мн. 1977

Творы бел. пісьменьнікаў XIX ст. кампактна сабраныя у хрэстаматыі "Бел.літаратура XIX ст /Мн.1988/, але іх можна чытаць і у асобных выданьнях: В.Дунін-Марцінкевіч.Тво...

/працяг на ст.6/

станьня 1863 года, пра пошукі імя аўтара ананімнае паэмы "Энеіды навыварат".

Пра Ул.Сыракомлю, Я.Чачота і іхніх сучасьнікаў — цікавыя нарысы і эсэ напісалі К. Цьвірка /Дарога ў сто гадоў. Мн.1974; Слова пра Сыракомлю. Мн.1975; Той курган векавечны. Мн.1985/ і Ул.Мархель /Лірнік вясновы.Мн.1985/, пра бел. паэта графа Абуховіча-Бандынэлі напісаў Р.Радчанка /Мн.1985/.

10. Бел. літаратура XIX — пач. XX ст.Мн.1978.

З гэтай хрэстаматыяй мы перабіраемся ў нашае стагодзьдзе. Склаў яе Сьцяпан Александровіч, ніводная з кніг якога не абыйшлася бяз новых адкрыцьцяў у гісторыі л-ры: гл. "Гісторыя і сучаснасьць" /Мн.1968/; "Пуцявіны роднага слова" /Мн.1971/ — тут найбольш поўна апісаныя пачаткі бел.перыёдыкі; "Кнігі і людзі" /Мн. 1976/; "Слова-багацьце" /Мн.1981/; "Тут зямля такая" /Мн. 1985/.

Пра пачатак XX стагодзьдзя, пра Нашаніўскі перыяд варта даверыцца кнігам Г.Каханоўскага, Р.Семашкевіча.

А вось — тры кнігі розных жанраў пра Максіма Багдановіча: Шлях паэта. Мн.1975; М. Стральцоў. Загадка Багдановіча. Мн.1969 або - Выбранае. Мн.1987; А.Бачыла. Дарогамі М. Багдановіча. Мн.1983.

Творы самога Багдановіча найбольш поўна выходзілі двухтомнікам у 1968 годзе. Цікавае факсімільнае выданьне адзінага прыжыцьцёвага зборніка паэта "Вянок" /Мн.1981/. М.Багдановіч — бадай, найпершы духоўны настаўнік усіх, хто бярэцца пісаць па-беларуску.

Пра Цётку пісалі Л.Арабей і В.Коўтун. Мн.1984; К.Калиновский /чамусьці,у перакладзе на расейскую мову/. Из печатного и рукописного наследия. Мн.1988; Ян Чачот. Наваградзкі замак. Мн.1989; Я.Лучына. Творы. Мн.1987.

Яшчэ раней, у 60-70-я гады, выходзілі кнігі Ул.Сыракомлі, В.Каратынскага, пераклады паэзіі Адама Міцкевіча. У выдавецкіх планах — перавыданьне твораў Францішка Багушэвіча.

Яшчэ пра XIX ст. цікавыя зьвесткі ёсьць у грунтоўным зборы "Пачынальнікі" /Мн 1977/, які склаў Генадзь Кісялёў. Пра тое ж ягоныя кнігі "Сейбіты вечнага" /Мн.1963/, "З думай пра Беларусь" /Мн.1966/, "Пошукі імя"/Мн.1978/, "Героі і музы" /Мн. 1982/. У гэтых выданьнях шмат распавядаецца пра людзей і падзеі Пау--

Кніжка самой Цёткі выйшла ў 1976. Яшчэ з нашаніўцаў трэба абавязкова пачытаць Ядвігіна Ш. /Творы. Мн.1977/, С.Палуяна /Лісты ў будучыню. Мн.1986/, а таксама К.Каганца, Я.Дылу, У.Галубка, Ц.Гартнага.

Нядаўна зьявілася факсіміле зборніка Алеся Гаруна "Матчын дар" /Мн.1988/, а найбольш поўна гэтага выдатнага паэта трэба чытаць у ягонай кн. "Творы" /Мн.1927/.

11. Янка Купала. Энцыклапедычны даведнік. Мн. 1986.

Творы Купалы найпаўней выдаваліся сямітомнікам у 1972-1976 гг. Поўнага збору твораў Купалы /і ўвогуле ў бел. літ-ры/ — няма.Найлепшы зборнік Купалы, з якога відаць геній народнага паэта: Выйдзі з сэрцам як з паходняй. Мн.1982. Тут, між іншым, рэабілітаваная паэма "На куцьцю". Варта патрымаць у руках факсімільнае выданьне першага зборніка Купалы "Жалейка" /Мн.1982/. З твораў, якія апублікаваныя толькі ў апошні час, гл. п'есу "Тутэйшыя" і вершы /Полымя, №№ 9-10 за 1988 год і "ЛіМ" за 1988 год/.

12.Якуб Колас. Песьні жальбы. Мн.1982.

Гэта яшчэ адно факсіміле. Грунтоўна вершы і паэмы Коласа трэба чытаць у ягоным 14-томніку /Мн.1972-1978/. Там жа зьмешчаныя апавяданьні і казкі, што напісаныя да рэвалюцыі, а таксама першыя часткі трылогіі "На ростанях" лепшае з прозы Коласа. Пра яго — кніга М.Лужаніна "Колас расказвае пра сябе" /Мн.1982/.

Дарэчы, з беларускае мэмуарыстыкі варта адзначыць як лепшыя кнігі ўспамінаў пра Ц.Гартнага, Р.Шырму, мэмуары П.Мядзёлкі і М.Улашчыка.

13. Максім Танк. Лісткі календара. Мн.1970 або — Збор твораў. Т.6. Мн.1981.

Гэта яшчэ адзін зварот да пісьменьнікаў Заходняе Беларусі. Сярод іх — постаць першае велічыні — Уладзімір Жылка. Гл. ягоную кніжку "Пожні" /Мн.1986/.

Творцы міжваеннага часу з гэтага боку мяжы, з Усходняе Беларусі — Міхась Зарэцкі, Кузьма Чорны, Уладзімір Дубоўка і Язэп Пушча /даваенныя творы/, Міхась Чарот /паэмы/,Кандрат Крапіва /байкі/, Тодар Кляшторны,Ян Скрыган, Паўлюк Трус, Л.Калюга, Ул.Хадыка...

14. Ларыса Геніюш. Невадам з Нёмана. Мн. 1967 і На чаборы настоена. Мн.1982.

Вось тры неперавыданыя бел. паэткі: Н.Арсеньнева, Л.Геніюш і Я.Шпмеўмбаўм.Усе тры належаць да аднаго пакаленьня. Арсеньнева не перавыдаецца ўвогуле, Шпмеўмбаўм "легалізавалі" зусім нядаўна /ЛіМ, Полымя, № 5 за 1988/, а Геніюш, апроч названых кніжак, можна пачытаць у "Полымі" /№ 4 — 1988/ і "Беларусь" /№ 6 — 1988/.

/Працяг на ст.7/

З іменамі Арсеньневай і Геніюш зьнітаваная тэма бел. эміграцкае л-ры, пра якую гл. нарысы Б.Сачанкі ў "Маладосьці" /№№ 10, 11 за 1988 і № 5 за 1989/.

15. Янка Брыль. Збор твораў у 5 т. Мн. 1979-82.

Народны пісьменьнік БССР вылучаецца эўрапейскай культурай пісьма і памяркоўнасьцю, якая часам мяжуе з адсутнасьцю прынцыпаў. Напэўна, усе пяць тамоў чытаць ня варта, трэба зьвярнуць увагу на лірычныя мініяцюры і на дзьве аповесьці, якія, між іншым, выходзілі і асобна: "Ніжнія Байдуны" /у зб. "Акраец хлеба", Мн.1977/ і "Золак, убачаны здалёк" /Мн.1979/.

Блізкія да Брыля і ня менш вартыя празаікі Міхась Стральцоў /Выбранае. Мн. 1988/, В.Адамчык /раманы "Чужая бацькаўшчына", "Год нулевы", "І скажа той, хто народзіцца", В.Казько і А.Кудравец.

16. Васіль Быкаў. Збор твораў у 4 т.Мн.1983-84.

"Знак бяды" /гл. варыянт без купюр у"Полымі", № 8 за 1982 год/, пасьля зьявіліся з друку аповесьці "Кар'ер" /Мн. 1986/, "У тумане" і "Аблава".

17. Алесь Разанаў. Назаўжды. Мн. 1974, Каардынаты быцьця. Мн. 1976, Шлях-360. Мн. 1982, Вастрыё стралы. Мн.1988.

Гэта пасьля Багдановіча, бадай, другі духоўны настаўнік сучасных маладых паэтаў, той рэдкі паэт, у творах якога ня толькі прысутнічае, але і разьвіваецца нацыянальная філязофія, эстэтыка, мысьленьне.

Разанавым мы і скончым пералік таго, што адбываецца, але ўжо і адбылося ў беларускай літаратуры. Адных аўтараў мы пазначылі канкрэтнымі кнігамі, іншых — толькі назвамі. Гэта значыць, што чытач не абміне іхнія кніжкі ў кнігарні і іхнія творы ў пэрыёдыцы. Вядома, пералік імёнаў — зусім няпоўны, і варта побач зь якасным бокам бел. прыгожага пісьменства пункцірам пазначыць і колькасны бок, тое, што не павінна губляцца сярод соцень і і тысяч выданьняў, якія займаюць паліцы кнігарняў і бібліятэк.

Гэта кнігі "меншых" пісьменьнікаў міжваеннага часу М.Грамыкі, Я.Нёманскага, Б.Мікуліча, М.Нікановіча... Гэта М.Машара - адзін зь лідараў заходнебеларускае паэзіі і пасрэдны пасьляваенны празаік. Гэта палітычныя паэты В.Таўлай, М.Засім, П.Панчанка, Г. Бураўкін, В.Зуёнак... Гэта цікавыя часам творы для дзяцей у велізарнай спадчыне Я.Маўра, М.Лынькова, А.Якімовіча, В.Віткі... Гэта "меншыя" паэты сярод сучасных іменітасьцяў П.Броўка, П. Глебка, А.Астрэйка, С.Грахоўскі, А.Бачыла, Н. Гілевіч, Я.Сіпакоў, гістарычная драма М.Арочкі "Крэва", вершы А.Наўроцкага. Гэта мноства жанчын-паэтак, між якіх вылучаюцца Р.Баравікова і Д.Бічэль-Загнетава. Гэта меладраматычныя празаікі І.Шамякін, А.Карпюк, эсэ В.Карамазава, абразкі Ф.Янкоўскага, гістарычная проза Л.Дайнекі і В.Хомчанкі, лубочныя, але па-свойму цікавыя творы В.Дубінкі. Гэта драматургі Макаёнак і Дудараў, беластоцкія беларусы А.Барскі і С.Яновіч. Гэта, нарэшце, ананімная паэма "Сказ пра Лысую гару", якая выйшла у бібліятэцы часопіса "Вожык" /Мн. 1988/.

* * *

Новая хваля нацыянальнага адраджэньня 1980-х гадоў — гэта і хваля прыліву ў бел. л-ры. Калі дзесяць гадоў таму яшчэ стаяла пытаньне: ці прыйдзе ў літ-ру вартая зьмена? — дык цяпер такое пытаньне ўжо не стаіць. Дзесяткі новых паэтаў і празаікаў неўзабаве перарастуць у сотні, і ўжо няпроста вылучыць тых, якія прыходзяць не на дзень, якія ня зьнікнуць і не змарнеюць пасьля першых сваіх кніжак. І усё ж паспрабуем.

18. Уладзімір Арлоў. Добры дзень, мая Шыпшына. Мн.1986, Дзень, калі ўпала страла. Мн. 1988.

Прафэсійны гісторык піша бэлетрыстыку пра рэальныя падзеі і асобы бел.мінуўшчыны. Недастаткова тэмпераментны, каб стаць "другім Караткевічам", і занадта тэмпераментны, каб стаць "другім Крашэўскім". А гэта дае надзею, што будзем мець самабытнага, "першага" Арлова.

18. Леанід Галубовіч. Таемнасьць агню. Мн. 1985, Споведзь бяссоннай душы. Мн. 1989.

"Беларускі Рубцоў" або "лебядзіная песьня вёскі". Папраўдзе ж, паэт, надзелены "стыхійным талентам", які вырываецца з шораў кандовае традыцыі дабротнай паэзіі застойнага часу. Гэта вельмі балюча.

Ягоны духоўны вучань — Віктар Шніп.

19. Алег Мінкін. Сурма. Мн. 1985.

У Мінкіна, бадай, найлепшае адчуваньне тонкасьцяў мовы, зь якіх і тчэцца ягоная паэзія, цяжкая для перакладу.

Паэт, які тчэ думкамі — Алег Бембель або Зьніч, які выдаў кніжку "Рэха малітвы" /Нью-Ёрк, 1988/ і некалькі нізак вершаў /гл. Крыніца, № 1, Полымя, № 2, Беларусь, № 4, — усё 1989г./.

Паэт, які тчэ рэаліямі, прадметамі,фактамі, іменамі — Леанід Дранько-Майсюк. Выдаў кніжкі "Вандроўнік" /Мн. 1988/ і "Над пляцам" /Мн.1987/.

/працяг на ст.8/

Тутсама згадаем імёны паэтак Л.Рублеўскай і Г.Дубянецкай, паэта А.Бадака.

20. Сяржук Сокалаў-Воюш. Мяккі знак. Мн.1989.

Яшчэ адзін паэт, надзелены "стыхійным талентам", які аднак увесь — выраз нацыянальнае сьвядомасьці. Паэт-трыбун, здатны, зрэшты, да і тымных вершаў. Сьледам за С.-Воюшам гэтай самай сьцяжынкай у літаратуру прыходзяць А.Сыс /Зборнік "Пан Лес", Мн.1989/, Т.Зіненка і А.Жамойцін.

21. Адам Глёбус. Парк. Мн.1988 і Адзінота на стадыёне. Мн. 1989

Гэта "халодная" паэзія і проза, аўтара якой называюць урбаністам і творы нагадваюць кубістычныя малюнкі. Бадай менавіта з іх — найболып рацыянальных — і можа разьвіцца беларускі экзыстэнцыялізм — магутная духоўная плынь XX стагодзьдзя.

У Глёбуса ёсьць свая каманда — Ул.Сьцяпан, М.Шайбак, М.Клімковіч, Ул.Сіўчыкаў.

Зусім іншыя ад іх і паміж сабой, але ня менш цікавыя празаікі А.Асташонак, А.Наварыч і В.Мудроў, Х.Лялько.

Наогул, усе названыя аўтары новае генэрацыі -- надзвычай разнастайныя. Ім яшчэ не вядомае эпігонства, яны яшчэ не пераламаныя на тое, каб пісаць "як усе". Рана ці позна ломка адбудзецца. Хто ж выстаіць?

А пра гэта мы даведаемся, калі будзем чытаць часопісы і газэту "ЛіМ", дзе новыя літаратары прабіваюцца на старонкі праз старыя здранцьвелыя кланы адмерлае ўжо рэдактуры. Найлягчэй ім гэта ўдаецца ў "Крыніцы".

На заканчэньне пералічым публікацыі у перыёдыках тых аўтараў і твораў, якія доўгі час былі пад забаронай. Як правіла, гэта — залаты фонд нашае літаратуры: Андрэй Мрый /Полымя, № 1,2 і Маладосьць № 2 за 1988/;Алесь Гарун /Полымя, № 6 і Крыніца, № 3 за 1988/; Уладзімір Жылка /Беларусь, № 11 за 1988/;Уладзімір Дубоўка /Беларусь, № 6 за 1988/; Язэп Пушча /Беларусь, № 5 за 1988 і Полымя, № 1 за 1989/; а таксама Казімер Сваяк /Крыніца і Беларусь, № 10 за 1988 і Полымя, № 2 за 1989 /, Макар Краўцоў /Крыніца, № 5 за 1989/; Арол /Крыніца, № 7 і Бел.мова і л-ра ў школе, № 6 за 1988/, А.Зязюля /Крыніца, № 5 за 1989 /, Тодар Кляшторны /Беларусь, № 7 за 1988/, Леанід Родзевіч /Беларусь, № 1 за 1989/ і Ігнат Дварчанін /Беларусь, № 1 за 1988/...

---

Рэдакцыя дзякуе невядомаму аўтару за ягоную працу.

# АЛЕГ БЕМБЕЛЬ

## УЛАДЗІМІРУ КАРАТКЕВІЧУ

/да 50-годзьдзя/

Ты ўзышоў там, дзе Белая Вежа сусьветавым дрэвам
і Зямлю і Сузор"і карэньнем і гольлем арэ,
дзе пад Белымі Крыламі вечнае праўды напевы
чуе ўпарты народ, што і ў сконе нябёс
не памрэ...

Ты гарыш там, дзе чорныя цені праклёнам
лунаі
паміж сьветам душы і зьнявечаным целам вякоў,
дзе чужыя, варожыя Краю і Сэрцу скрывалі
нам іржою цьвіка ўганялі у розум і кроў...

Ты -- у Вечнасьць адыдзеш...
прытуліш крылом навакольле,
ад якога у сьвет твае вольныя песьні плылі...
Твае слова -- наш гімн,
што ніколі,
ніколі,
ніколі,
так,
ніколі ня сьціхне,
ня сьціхне на гэтай зямлі...

*

Ёсьць запавет -- зусім ня новы,
Яго Хрыстос не адмяняў:
Хай услаўляюць усе мовы
Сьвятое Божае імя.

І вось за морам, недарэчы,
Даводзіць наш Мітрапаліт:
"...на том искусственном наречьи
наш чин в Церквах не говорит..."

Народ желает речь иную..."
Калі то праўда, Філарэт,
Вы на палітыку зямную
Зьмянілі Божы запавет!

## ТУТЭЙШАЙ ШЛЯХЦЕ

Самаўпэўнены і сыты,
я у застойныя гады
крытыкаваў Мітрапаліта,
"Царкву -- бяз мовы і сьвятых..."

Уладыку зрушыў цень маркотны:
Дух Дзядаў -- Храмам стаў сьвяціць...
Але тутэйшы "люд шляхотны",
як і раней, паныла сьпіць...

Ваш кволы дух Радзімы зморыць,
народ наш зганіць на ўвесь сьвет...
за Вас сьвятую справу творыць
шляхотны р у с к і — Філарэт!

Шаноўныя чытачы! Сабекошт гэтага нумару "Вестак Адраджэньня" — 40 кап.

Дзякуем усім, хто падтрымлівае нас фінансава.

Выпуск рыхтавалі: А.Сёмуха, К.Мацкевіч, Н.Матвеенка, Я.Мятлеўскі.